# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (243) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 23 КАСТРЫЧНІКА 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## НІЗБОДСКАЕ СУКНО

Хто ж са старэйшых сялян не памятае нізбодскага сукна. Яно хоць таўставатае, але цёплае і што найбольш важнае, моцнае. Век будзеш насіць, чалавеча, калі ўжо збіўся і пашыў касцюм з «Прыніцаўскага» нізбодскага сукна. Ганарыліся нізбодскія фабрыканты сваім сукном. Захвальвалі яго крыклівыя крамнікі. Не, не было тут да 1939 года вялікіх суконных фабрык. У маленькіх драўляных будынках, на прымітыўных кроснах, ткалі гэтае сукно нізбодскія таленавітыя ткачы. І фабрыканты не былі тут важныя. Некалькі немцаў ды яўрэяў паўкапіталістаў, якія поўнасцю былі залежныя ад беластоцкіх буйнейшых фабрыкантаў — акул. Але прыбытак быў. Каля 1000 рабочых, якія дзень у дзень цяжка працавалі, гарантавалі гэты прыбытак, гарантавалі дастатак сем'ям уласнікаў.

Ваенная завіруха, якая два разы праляцела над ціхенькай Нізбодкай, да асноў разбурыла суконныя фабрычкі. Пагнала адсюль іх уласнікаў. Нізбодскія ткачы засталіся. Цяжкае было жыццё ў першыя пасляваенныя гады. Усё разбурана. Рук няма за што зачапіць. А жыць трэба. Старыя рабочыя пачалі выграбаць з руінаў знішчаныя кросны, прадзільныя машыны, выбіраючы ўсё, што было больш прыгодным.

— Калі не адбудуем фабрыкі, — гаварыў рабочым палымяны барацьбіт за новую будучыню, Сяржан, — не існаваць Міхалову (так пасля вайны названа колішнюю Нізбодку), як рабочаму пасёлку. Загіне слаўная традыцыя ткачоў - суконнікаў, наступіць занапад эканамічнага жыцця ўсяго мястэчка.

Рабочыя добра разумелі гэта. Таму не шкадавалі сіл і намаганняў, каб аднавіць фабрыку. І так, шрубка па шрубцы, частка па частцы, камплеталавася ткальня і прадзільны цэх. Ніхто рабочым не плаціў за гэтую працу, яны і не дамагаліся платы.

— Абы адбудаваць фабрыку, абы кросны заляскаталі, а там і аб заплаце будзем думаць, — гаварылі яны.

Спачатку працавала ў новаадбудаванай фабрыцы ўсяго 50 чалавек. Дырэктарам фабрыкі выбрана рабочага - камуніста, Язэпа Сяржана. Аднак не дазволілі фашысцкія падонкі доўга пажыць палымянаму барацьбіту. Яго варварска замардавана.

У памяць загінуўшага камуніста Сяржана, імем яго названа адно з буйнейшых ваўняных прадпрыемстваў у Беластоку. У склад Беластоцкіх прадпрыемстваў ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Сяржана увайшла і Міхалоўская фабрыка як прадпрыемства «Д».

З кожным годам да фабрыкі прыходзіла ўсё больш рабочых і моладзі з усёй аколіцы. Пабольшылася і машын. Цяжка, ды і зусім немагчыма было змясціцца ў драўляных сценах невялічкай старой фабрыкі.

(Працяг на стар. 4)

## ДОБРЫ ПАЧАТАК

Сельскагаспадарчы гурток у Градэлях (Бельскі павет) быў арганізаваны яшчэ ў 1957 годзе. Спачатку ён налічваў нямнога членаў. Але добрыя мэты, якія вызначыла сабе праўленне гуртка, прыцягвала штораз больш гаспадароў і зараз ён гуртуе больш, чым 1/3 частку ўсіх гаспадароў вёскі (25 членаў). Старшынёю гуртка да сённяшняга дня з'яўляецца Павел Яканюк, а сакратаром — Сцяпан Андрэюк, які адначасова з'яўляецца солтысам у Градэлях. Такі шматлікі ўдзел градэляўскіх гаспадароў у сельгасгуртку з'яўляецца вынікам сур'ёзнага і сумленнага падыхода гр. гр. П. Яканюка і С. Андрэюка да даверанай ім сябрамі працы.

Ад чаго ж пачалі працу гуртко́ўцы ў Градэлях, што яны робяць і што намераны рабіць у бліжэйшай будучыні? Пабудова святліцы з'яўляецца, як дагэтуль, найвялікшым дасягненнем градэляўскага гуртка. Гурткоўцы вырашылі задбаць пра культуру сваёй вёскі і таму выступілі да ўсіх жыхароў з ініцыятывай пабудовы будынка на святліцу, краму і малачарню. Каля 10-ці тыс. зл. сабрана са складчын. крыху дала ГРН і каля 20-ці тыс. зл. ПГРН. Амаль усе працы выконваліся грамадскім чынам. Сельгасгурткоўцы ўзялі ў арэнду дахаўчарку, якая дала ім 7 тыс. злотых. Гэтыя грошы прызначаны на выканчэнне святліцы. Гурткоўцы наме-

(Працяг на стар. 4)

## „БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ" НА ЭКРАНАХ КІНО

У сакавіку гэтага года мы паведамлялі чытачоў «Нівы» аб тым, што Студыя асветных фільмаў у Лодзі рэалізавала ў вёсцы Пасынкі, Бельскага павета, кароткаметражны фільм «Беларускае вяселле». У палавіне верасня г. г. «Беларускае вяселле» ўвайшло на экраны кінатэатраў. У першую чаргу фільм дэманстраваўся на месцы яго стварэння — у вёсцы Пасынкі. «Артысты» — удзельнікі — шматлікія сяляне з Пасынак і навакольных вёсак з прыемнасцю аглядалі сябе на экране. На першую дэманстрацыю фільма зышлося і з'ехалася ў Пасынкі сотні людзей з навакольных вёсак. Кінамеханікі былі вымушаны па некалькі разоў дэманстраваць фільм кожнай партыі гледачоў аддзельна, бо глядзельная зала не магла змясціць ахвотных у адзін сеанс, а гледачы не задавальняліся адным аглядам фільма.

У сучасны момант «Беларускае вяселле» дэманструецца ва ўсіх мясцовасцях Беласточчыны, дзе пражывае беларускае насельніцтва. (мг)







МАЙ БЫВАЕ І ВОСЕННЮ

Фотаэцюд К. Л.

 

Кур'ёзы

## ТЭАТР і РЭКЛАМА

На думку амерыканскіх бізнесменаў, тэатр уяўляе «практычную каштоўнасць» толькі як спосаб рэкламаваць шырокай публіцы той ці іншы тавар. За адпаведную «ўзнагароду» аўтар або рэжысёр заўсёды пагаджаецца ўнесці ў п'есу «невялікія змены».

Калі гераіня фарбуе вусны, дык тут жа ўпамінаецца, што губная памада пэўнай фірмы — лепшая ў свеце. І калі нават герой павінен пакончыць жыццё самагубствам, дык абавязкова ўказваецца, што ён павесіўся на падцяжках пэўнай фірмы. Гэта служыць рэкламай трываласці і добрай якасці падцяжак дадзенай фірмы.

П'есы сучасных аўтараў лёгка «падганяюцца» пад патрэбы рэкламы. З творамі класікаў мінулага справа абстаіць больш складана. Аднак вынаходлівыя дзялкі і тут знайшлі «выйсце». Як паведамляе газета «Морген», у тэатры амерыканскага горада Морыс цяпер ідзе «Фауст» Гётэ, «трошкі» зменены па ўзгадненню з фабрыкантам швейных машын. Усе сцэны, дзе Маргарыта сядзіць за калаўротам, зменены. Цяпер у Маргарыты замест калаўрота... электрычная швейная машына навейшай маркі.

## ПАВЕТРАНЫЯ ПІРАТЫ

З таго часу, як тэлебачанне ў скандынаўскіх краінах стала дзяржаўнай манаполіяй, урад гэтых краін забараніў рэкламныя перадачы «амерыканскага ўзору». Пад перадачамі «амерыканскага ўзору» маюцца на ўвазе ўрыўкі з класічных твораў літаратуры, з опер і аперэт, «прыстасаваныя» для рэкламы розных тавараў.

Шведская кампанія камерцыйнага тэлебачання (СКТК), фактычнымі ўласнікамі якой з'яўляюцца амерыканцы, атрымлівала вялікія прыбыткі ад рэкламных перадач.

Пасля забароны гэтых перадач фірма абсталявала дзве лятаючыя тэлестудыі на самалётах тыпа «ДС—3». Лётаючы на вялікай вышыні ўздоўж граніц скандынаўскіх краін, гэтыя самалёты вядуць рэкламныя перадачы, якія прымаюцца ва ўсіх скандынаўскіх краінах. Паліцэйскія ўлады гэтых краін бяссільныя перад паветранымі піратамі, таму што ў якасці базы самалёты выкарыстоўваюць ісландскія аэрадромы.

# ФотаВітрына



Выступленні кіраўніка савецкай дэлегацыі на XV Сесію ААН М. Хрушчова здабылі яму самыя шчырыя сімпатыі сярод афрыканскіх і азіяцкіх краін.

На здымку: Прэм'ер Хрушчоў у часе прыёму, наладжанага ў яго гонар кіраўніком дэлегацыі Гвінеі на XV Сесію ААН І. Турэ.



У Спартыўным палацы ў Лодзі адчынена ўсепольская выстаўка, адлюстроўваючая дзейнасць МО і органаў бяспекі. Група наведвальнікаў знаёміцца з макетам, які з'яўляецца навучным дапаможнікам функцыянераў Комэнды Руху.



Традыцыйным нацыянальным танцам жыхары новай афрыканскай дзяржавы — Гвінеі — адзначаюць сваё знамянальнае свята.





Не толькі беларускі фальклор славіцца народнымі музычнымі інструментамі.

На здымку: турэцкі селянін грае на т. зв. «зурне», якая з'яўляецца разнавіднасцю флейты.

# ШЭРЫ ЧАЛАВЕК і ТАННАЯ БОМБА

Ізноў электрызавала ўвесь свет вестка, якая прыйшла да нас з Заходняй Германіі. Вось германскія вучоныя вынайшлі метад таннага атрымання ўрана У-235. Вучоныя зрабілі вынаходства, а бонскія палітыкі прыдумалі ўжо назву для новага элемента. Як вядома, уран—235 з'яўляецца асноўнай сыравінай пры вытворчасці атамных бомб. Гэтыя бомбы атрымалі назву «народных», або «бомб шэрага чалавека». Бачым зараз, да чаго вядзе заходнегерманская прапаганда, накіраваная на ваенную падрыхтоўку.

Увесь свет добра ўяўляе, якую вялікую небяспеку тоіць у сабе гэтае вынаходства. Гэта перадусім гаворыць, што ў ГФР ужо даўно праводзяцца атамныя даследаванні. Паводле азначэння прадстаўніка бонскага ўрада, гэтае вынаходства з'яўляецца толькі працягам даследаванняў, распачатых яшчэ ў часе другой сусветнай вайны. Магчымасць вытворчасці таннай бомбы стварае спрыяльныя ўмовы для распаўсюджвання тэрмаядзернага аружжа ў краінах, якіх толькі перспектыва мільённых расходаў паўстрымоўвала перад «роскашшу» атамнага ўзбраення. Рэакцыйныя газеты ў Бельгіі і Галандыі ўжо змясцілі артыкулы, у якіх адзначаецца, што гэтыя краіны могуць без большага ўрону для сваіх бюджэтаў прыступіць да атамнага ўзбраення.

Аднак у свеце ані на хвіліну не замаўкае голас разважных людзей, якія ўсцяж перасцерагаюць перад страшэннай небяспекай, якую нясе з сабою атамнае ўзбраенне. Напрыклад, Джон Бернал у сваёй кніжцы «Свет без войнаў» вельмі рэльефна апісвае страты ў выпадку тэрмаядзернай вайны. Вось яго словы: «Узрыў бомбы сілаю ў 10 мегатон (гэта самая меншая атамная бомба, якую зараз прадукуюць, — Ул. Л.) прывядзе да наступных вынікаў: у гарадскіх раёнах загіне 10 мільёнаў чалавек, у прамысловых раёнах — 1,5 мільёна чалавек, а ў сялянскіх раёнах — 150 тысяч чалавек.» Бернал піша далей аб стратах, выкліканых радыёактыўнымі асадкамі. Тут таксама загінула б некалькі мільёнаў чалавек. Вось перспектывы, якія могуць наблізіць свету «танныя» вынаходствы заходнегерманскіх вучоных.

Як адзначаў у часе XV Сесіі ААН прэм'ер СССР М. С. Хрушчоў, гонка ўзбраення ў імперыялістычных дзяржавах прымусіла Савецкі Саюз да серыйнай прадукцыі атамных бомб. Гэта і вынік халоднай вайны, вынік недаверлівасці, якую ўмацоўваюць у міжнародных адносінах імперыялістычныя дзяржавы.

У Заходняй Германіі мэтанакіравана і сведама прамоўчваецца аб выніках пашырэння атамнага ўзбраення і расхвальваецца вынаходлівасць злачынных вучоных. Аднак шэры чалавек добра ўяўляе сабе, што ў выпадку ядзернай вайны дзяржавы з меншай тэрыторыяй і народанасельніцтвам, напрыклад, Галандыя ці Бельгія, аказаліся б цалкам знішчанымі пры помачы невялікай колькасці бомб. Адзін з англійскіх вайсковых тэарэтыкаў Л. Гарт адзначае, што 10—15 вадародных бомб хопіць, каб знішчыць усе асноўныя прамысловыя цэнтры ў Англіі. У заходнегерманскім друку гэтай весткі не было і таму варта прыпомніць аб ёй тым, якія ганарацца «народнай атамнай бомбай».

Гэтае вынаходства, урэшце, не прынясе бонскай дзяржаве гонару. Паяўляецца яно ў той час, калі сацыялістычны мір, нейтральныя краіны і народы другіх краін працягваюць наступленне ў інтарэсах усеагульнага і поўнага раззбраення, у інтарэсах ліквідацыі атамных і вадародных бомб, як небяспекі, паграджаючай усяму свету.

УЛ. ЛАЗІНСКІ




— У чым справа? — З галавамі што-небудзь здарылася? — спытаў Керн.

— Не... але я хацела пагаварыць з вамі, пане прафесар.

— Я вас слухаю, мадэмуазэль Ларан.

— Скажыце, вы сур'ёзна хочаце даць галаве Брыке цела, ці толькі цешыце яе?

— Цалкам сур'ёзна.

— І вы ўпэўнены ў поспех гэтай аперацыі?

— Зусім. Вы ж бачылі сабаку?

— А Дауэля вы не маеце намеру... паставіць на ногі?

— Я думаў і аб гэтым.

— Дык чаму не пачнеце доследу з яго?

19

— Таму, што галава Дауэля даражэй тысячы іншых галоў... Вы нічога больш не маеце сказаць?

— Нічога, пане прафесар, — адказала Ларан і накіравалася да дзвярэй.

— У гэтакім выпадку, мадэмуазэль, я маю да вас пэўныя пытанні. Прысядзьце, мадэмуазэль.

Ларан з трывогай у сэрцы села на крэсла.

Керн доўга глядзеў у вочы Ларан. Потым ён раптам устаў, упёрся кулакамі ў стол, схіліў галаў да Ларан і спытаў:

— Скажыце, вы не пускалі ў рух паветраны кран галавы Дауэля?

Ларан адчула, што кончыкі пальцаў яе пахаладзелі. Думкі віхрам закружыліся ў яе галаве.

Керн не спускаў вачэй з яе твару.

— Не хлусіце, — сказаў ён насмешліва. — Вы гутарылі з галавой, не адпірайцеся, я ведаю гэта. Джон падслухаў усё...

Ларан, схіліўшы галаву, маўчала.

Керн раптам быстра накіраваўся да дзвярэй і замкнуў іх на ключ. Потым бязгучна падыйшоў да Ларан і спытаў:

— І што ж вы думаеце зрабіць, мілая дзяўчынка? Аддаць пад суд краважэрчую пачвару Керна? Утаптаць яго імя ў балота? Выкрыць яго злачынства? Так заканчваліся ўсе дабрачынныя раманы, якія вы чыталі, ці не праўда, мілая дзяўчынка?

І падыйшоўшы да Ларан упрытык, ён знізіўшы голас, сказаў:

— Вы ведаеце, што і вас і галаву Дауэля я магу пераўтварыць у попел і ні адна душа не даведаецца аб гэтым.

— Я ведаю, што вы гатовы на ўсялякае...

20

— Злачынства? І вельмі добра, што вы ведаеце гэта.

Керн пачаў хадзіць па пакоі і ўжо нармальным голасам сказаў:

— Дык пішыце. «Дарагая мамачка, — ці як вы там завеце сваю маці? — стан хворых, якіх я даглядаю, патрабуе маёй неадлучнай прысутнасці ў доме прафесара Керна...»

— Вы хочаце затрымаць мяне ў вашым доме? — з абурэннем спытала Ларан.

— Вось, вось, мая дабрачынная памочніца.

— Я не буду пісаць гэтакага пісьма, — рашуча заявіла Ларан.

— Хопіць! — раптам крыкнуў Керн. — Зразумейце ж, што ў мяне няма іншага выйсця. Не будзьце, урэшце, неразумнай.

І, ужо быццам забыўшыся аб Ларан, Керн пачаў разважаць услых:

— Доўга так, зразумела, цягнуцца не можа. Але, маю надзею, я доўга вас не затрымаю. Наша праца набліжаецца да канца, і тады... Я хацеў сказаць, што галава недоўгавечна. І калі яна канчыць сваё існаванне... Ну, што там, вы ведаеце ўсё. Калі мы закончым з Дауэлям працу, закончыцца і існаванне галавы Дауэля. Тады вы зможаце вярнуцца да сваёй паважанай маці. Вы больш не будзеце небяспечнай для мяне.

Керн пазваніў. Увайшоў Джон.

— Джон, ты адвядзеш мадэмуазэль Ларан у белы пакой. Не забудзь заказаць для мадэмуазэль абед.

І Керн выйшаў.

Джон завёў Ларан у адведзены ёй пакой. Пакой быў вельмі прыгожы. Вялікае акно выходзіла ў

21



 




У нашы дні пытанне аб палёце людзей на Месяц, напэўна, будзе вырашана ўжо ў бліжэйшыя гады.

### ШТО СУСТРЭНЕ ЧАЛАВЕК НА МЕСЯЦЫ

Месяц, як і многія касмічныя целы, выпраменьвае радыёхвалі. Прыём радыёсігналаў Месяца дазволіў меркаваць аб яго тэмпературы. Удзень Сонца награвае Месяц да 120 градусаў цяпла, увечары тэмпература зніжаецца да 60 — 70 градусаў, а ноччу, якая працягваецца каля двух зямных тыдняў, тэмпература зніжаецца да 150 градусаў марозу. Радыёхвалі расказалі не толькі аб рэзкіх хістаннях тэмпературы на паверхні Месяца, але і аб тэмпературы верхніх пластоў кары Месяца. Як вядома, на Месяцы адсутнічаюць атмасфера і вада, і гэтая акалічнасць выключае магчымасць утварэння там вятроў і ападкаў. Надвор'е на Месяцы вызначаецца толькі тэмпературай яго паверхні.

Назіраючы Месяц, чалавек змог накапіць аб ім шмат каштоўных звестак, але ўсё ж многае ў жыцці гэтай планеты застаецца тайнай. Для канчатковай разгадкі ўсіх таямніц Месяца чалавеку застаецца адзін шлях — пабываць на ім. Пасля навуковых даследаванняў Месяца пачнецца непасрэднае яго асваенне. Людзі прыляцяць на Месяц на кіруемых касмічных ракетах. Месяц сустрэне іх непрыветна. Людзям будзе перашкаджаць рой метэарытаў — гэтых найдрабнейшых цвёрдых часцінак і каменьчыкаў, якія бесперапынна бамбардзіруюць паверхню Месяца. Не маючы атмасферы, Месяц не захаваны і ад другой бяды — магутнага выпраменьвання Сонца, патокаў ультрафіялетавых і рэнтгенаўскіх праменняў. На Зямлі чалавека ад іх знішчальнай дзейнасці прыкрывае паветраная абалонка атмасферы. У выніку рэзкіх хістанняў тэмпературы і ўдараў мноства метэарытаў Месяц пакрыты пластом парыстага рэчыва і пылу, які накапіўся за сотні мільёнаў гадоў.

### ПЕРШЫЯ ЛЮДЗІ НА МЕСЯЦЫ

Будуць апрануты яны ў спецыяльныя касцюмы-скафандры, падобныя на тыя, якімі карыстаюцца на Зямлі вадалазы. Скафандр будзе надзейна абараняць іх ад сляпотных праменняў Сонца ўдзень і лютага холаду ўночы. Паветрам чалавек будзе забяспечваць сябе сам. У скафандрах спецыяльныя хімічныя рэчывы будуць выдзяляць кісларод і паглынаць лішкі вільгаці.

Спачатку людзі на Месяцы будуць жыць у касмічных караблях, на якіх яны прыляцяць, а потым пабудуюць спецыяльныя палаткі са звышмоцнай пластмасы.

Першы час усё неабходнае для жыцця — ваду, паветра, харчы, людзі будуць атрымліваць з Зямлі. Але паступова яны пяройдуць на самаабслугоўванне. Патрэбны для дыхання кісларод яны здабудуць з глебы Месяца, — наша ж зямная кара таксама амаль напалову складаецца з кіслароду. Ваду будуць здабываць з розных мінералаў і метэарытаў. Магчыма, што на дне глыбокіх упадзін удасца знайсці нават лёд.

**Чалавек на Месяцы будзе адчуваць сябе надзвычай моцным і быстрым у рухах. Яго вага зменшыцца ў 6 разоў, а пры перасоўванні ён не сустрэне супраціўлення паветра. Цяжкія прадметы ён будзе падымаць без вялікіх мускульных намаганняў, звычайны крок ператворыцца ў вялікі скачок, паваліўшыся, чалавек не ўдарыцца аб паверхню Месяца. Не будуць чуць людзі і гукаў на Месяцы, таму што на ім няма паветра, якое перадае гук. Сувязь будзе ажыццяўляцца пры дапамозе радыё і тэлебачання, і толькі ў сваім жыллі, дзе будзе паветра, жыхары Месяца змогуць гаварыць між сабой.**

Неба над Месяцам будзе выглядаць чорнай заслонай, на якой два тыдні асляпляльна свеціць Сонца і немігаючыя зоркі. Нашу Зямлю жыхары Месяца ўбачаць яркім блакітным шарам, амаль у 14 разоў большым за Месяц. Зямля нерухома вісіць на небасхіле Месяца, не ўдзельнічаючы ў пазорным руху зоркавага карагода.

Як і на бязлюднай Антарктыдзе, першымі жыхарамі Месяца будуць вучоныя. Географы, селенографы, разведчыкі нетраў, палеантолагі, хімікі, фізікі, астраномы і вучоныя многіх іншых спецыяльнасцей будуць высаджвацца на Месяц, узброеныя неабходнай апаратурай. Для правядзення шырокай праграмы навуковых назіранняў на Месяцы будуць створаны абсерваторыі і навукова - даследчыя станцыі. Паступова каля іх вырастуць прамысловыя прадпрыемствы і цэлыя гарады.

### ЯК ЖА БУДУЦЬ ВЫГЛЯДАЦЬ ГАРАДЫ НА МЕСЯЦЫ?

Магчыма, першыя гарады будуць пабудаваны пад паверхняй Месяца, якая абароніць іх ад гарачыні і холаду, ад страты паветра і ўдараў метэарытаў. На будаўніцтва такіх падмесячных гарадоў не спатрэбіцца вялікай колькасці будаўнічых матэрыялаў. Але гарады, відаць, можна будзе размяшчаць і на самай паверхні Месяца. Кратары і цыркі гэтай планеты нібы самай прыродай створаны як натуральныя пляцоўкі для пабудовы першых гарадоў - аранжарэй. Пад велізарнай празрыстай чашай - купалам са спецыяльнай шматслойнай пластмасы размесцяцца навуковыя ўстановы, заводы, дамы, кінатэатры, сады і аранжарэі. Жыхары такога горада будуць не толькі вырабляць усё неабходнае для жыцця на Месяцы, але і забяспечваць палівам і харчамі караблі далёкіх касмічных рэйсаў.

Жыхары Месяца змогуць самі забяспечыць сябе электраэнергіяй. Пры дапамозе простых паўправадніковых прылад — сонечных батарэй — яны атрымаюць электрычную энергію за кошт святла і цеплыні сонечных праменняў. Тонкі, празрысты слой паўправадніка, які пакрые пластмасавае скляпенне горада на Месяцы, будзе ахаладжваць яго ў доўгі спякотны месячны дзень і ацяпляць, а таксама даваць электраэнергію ў час халоднай месячнай ночы. За кошт начнога холаду паўправадніковы запаляць мноства лямп дзённага святла і заліюць прыемным святлом горад на Месяцы. Холад ночы будзе рухаць станкі і машыны фабрык і заводаў.

## Крыху аб календары

■ Старажытныя Егіпцяне распачыналі новы год у палове ліпеня, бо тады распачынаўся вылеў Ніла — факт вельмі важны ў сельскай гаспадарцы.
■ Грэкі лічылі час ад першай алімпіяды — г. зн. ад 776 года да нашай эры.
■ Жыды лічылі час ад біблійнага стварэння свету, што нібы адбылося ў 3761 годзе перад нашай эрай.
■ Магаметанцы лічаць гады ад уцёкаў прарока Магамета з Меккі ў Медыну — г. зн. ад 622 года новай эры.
■ Старажытныя славяне пачыналі праўдападобна свой год на весну.
■ Юльянскі каляндар — (стары стыль) быў уведзены Юліем Цэзарам у 46 г. да нашай эры.
■ Грыгарыянскі (новы стыль) быў уведзены папай Грыгорам XIII у 1582 г.

эСКа

ПАРАДЫ ЦІКАВЫЯ І КАРЫСНЫЯ

## УСЕ АБ СОЛІ

Каб соль не макрэла ў сальнічцы, даем на спод сальнічкі некалькі зярнят рысу.

Б'ем бялок да цеста — доўга гэта прадаўжаецца. Сыпніце ў яго шчыпту солі — саб'ецца адразу на снег.

Яйка лопне ў час гатавання — ніхто гэтага не хоча. Каб не лопнула, трэба перад гатаваннем да вады ўсыпаць крыху солі.

Хочаце, каб крухмаляныя рэчы блішчалі, дасыпце ў гарачы крухмаль крыху солі.

Каб хутчэй распаліць у печы, не трэба паліваць алеем, ні бянзінам. Найлепш «дасыпаць» крыху солі. Паможа.

Скаварада з тлушчам пырскае. Каб не пырскала, пасыпаем тлушч соллю.

Сціраеце воўну — не забудзьце дасыпаць у ваду солі. Не будзе збягацца.

Алюмінёвыя і медныя гаршкі будуць блішчаць як новыя, калі іх чысціць соллю.

Соль знімае змучанасць. Як? Да міскі з салёнай вадой усадзіце ногі і мачыце іх нейкі час.

Баліць горла — палашчыце салёнай вадой. Перастане.

Змерзлую бульбу варым з соллю на пары, улажыўшы гаршок у другую пасуду з вадою. Салодкі пах знікне як сон.

## Рыс на пустыні

Паблізу вялікага кітайскага муру, дзе некалі цягнулася пустыня, цяпер расце рыс.

У правінцыі Шэнсі ёсць вялікая пустыня, пяскі якой засыпвалі ўсё новыя прасторы. Гораду Юлін праз 150 год пагражала засыпанне пяскамі. Цяпер тут расце рыс, пшаніца, проса, бульба, соя, кукуруза. Палі штучна навадняюцца. На 1/4 тэрыторыі пасаджана дрэвы. Намаганнямі сялян паўстаў вялікі абаронны лясны пас названы «Вялікім Зялёным мурам». Гэты мур абараняе цэлы раён ад пяскоў пустыні.

## Не заўсёды можна ганарыцца вялікімі грудзьмі

Адзін французскі часопіс падаў такі выпадак: Амерыканская сям'я Шмітаў перажыла незвычайнае здарэнне. Іх дачка сказала, што за некалькі месяцаў асягнула велічыню бюста Жан Мансфельд (вядомая амерыканская кіноактрыса, якая славіцца вялікімі грудзьмі). З часам грудзі дачкі Шмітаў выраслі большыя, чым у слаўнай кіназвязды. Але на гэтым не закончылася. Бюст пачаў вырастаць і ў бацькі. А малодшая дачка пачала хутчэй чым трэба сталець.

Урэшце справа выяснілася: сям'я Шмітаў штодня ела яйкі мякка звараныя. На птушкагадоўчай ферме, адкуль Шміты куплялі яйкі — да корму курам дадаваліся жаночыя гармоны для таго, каб куры лепш несліся. Нейкая колькасць гэтых гармонаў даставалася пры ежы у арганізм членаў сям'і Шмітаў, дзе выклікала вышэй апісаныя змены.

### НАЙМЕНШЫЯ



Нам здаецца, што нованароджаныя дзеці нічога не адчуваюць. А тымчасам навуковыя погляды сцвярджаюць, што толькі што народжаныя дзеці дасканала адчуваюць смак — ужо ў першых днях жыцця, адрозніваюць салодкае, горкае, кіслае, салёнае.

Пры непрыемных пахах моршчыцца. Нармальна чуць пачынаюць у 2-ім — 3-ім месяцы жыцця.

## ЕЎРОПА Ў ЦЫФРАХ

| П. Л. | Дзяржава | Паверхня ў кв. км. | Колькасць насельн. | Сталіца | Колькасць жыхароў у сталіцы |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Албанія | 29.000 | 1.421.000 | Тірана | 108.000 |
| 2. | Андора | 500 | 5.000 | Андора | 800 |
| 3. | Англія | 244.800 | 51.218.000 | Лондан | 8.346.100 |
| 4. | Аўстрыя | 83.900 | 6.983.000 | В'ена | 1.616.100 |
| 5. | Балгарыя | 110.900 | 7.659.000 | Софія | 725.800 |
| 6. | Бельгія | 30.500 | 8.819.000 | Брусель | 1.104.000 |
| 7. | Ватыкан | 0,44 | 1.000 | | |
| 8. | Венгрыя | 93.000 | 9.691.000 | Будапешт | 1.757.000 |
| 9. | Галандыя | 32.500 | 11.000.000 | Гаага | 605.400 |
| 10. | Г.Д.Р. | 108.100 | 18.210.000 | Берлін (усх) | 1.139.900 |
| 11. | Г.Ф.Р. | 248.400 | 52.694.000 | Бонн | 139.200 |
| 12. | Грэцыя | 132.600 | 7.901.000 | Афіны | 1.378.100 |
| 13. | Данія | 43.900 | 4.406.000 | Капенгаген | 1.220.200 |
| 14. | Іспанія | 495.800 | 28.751.000 | Мадрыт | 1.811.400 |
| 15. | Ісландыя | 102.800 | 156.000 | Рэйк'явік | 62.000 |
| 16. | Ірландыя | 70.300 | 2.933.000 | Дублін | 522.200 |
| 17. | Італія | 301.200 | 48.336.000 | Рым | 1.810.100 |
| 18. | Ліхтэнштэйн | 200 | 14.000 | Вадуз | 2.800 |
| 19. | Люксембург | 2.600 | 306.000 | Люксембург | 62.000 |
| 20. | Манака | 1,49 | 22.000 | Манака | 1.800 |
| 21. | Нарвегія | 323.900 | 3.392.000 | Осла | 505.800 |
| 22. | Партугалія | 88.900 | 8.693.000 | Лісабон | 1.100.000 |
| 23. | Польшча | 311.700 | 28.420.000 | Варшава | 1.031.000 |
| 24. | Румынія | 237.500 | 17.490.000 | Бухарэст | 1.236.900 |
| 25. | Сан-Марына | 61 | 14.000 | Сан-Марына | 1 500 |
| 26. | СССР | 22.270.600 | 200.200.000 | Масква | 7.100.000 |
| | еўрап. частка | 5.480.000 | 156.700.000 | | |
| 27. | Фінляндыя | 337.000 | 4.190.000 | Хельсінкі | 403.900 |
| 28. | Францыя | 551.300 | 43.787.000 | Парыж | 6.675.000 |
| 29. | Чэхаславакія | 127.900 | 13.019.000 | Прага | 972.600 |
| 30. | Швейцарыя | 41.300 | 4.923.000 | Берна | 179.300 |
| 31. | Швецыя | 449.200 | 7.214.000 | Штакголм | 1.029 200 |
| 32. | Югаславія | 256.900 | 17.267.000 | Белград | 469.900 |

 

# ЛЁТАЮЧЫЯ ТАЛЕРКІ

Лётаючыя талеркі бачылі не толькі людзі ў Канадзе і Бразіліі. Нашыя наглядальнікі заўважылі, як над Гдыняй праляцеў такі пасуд і спусціўся ў мора. Нават вартавыя катэры выйшлі на пошукі. Быццам бы ў матросаў сваіх талерак не хапае.

Па-мойму марсіяне вельмі гасцінныя. Падумайце самі! Талеркі нам прысылаюць. Незадоўга, мабыць, і пляшкі з кілішкамі прышлюць. Вельмі добра было б паслаць ім вэнджаны кумпяк з картачкай: «Пралетарыі ўсяго сусвету яднайцеся». Няхай бы даведаліся марсіяне, што мы дэмакратычныя людзі і ваяваць не збіраемся.

Між намі кажучы, не зайздрошчу я першым марсіянам на нашай зямлі. Трапяць яны за краткі і будуць адказваць за нелегальны пераход граніцы. Апрача таго, такую тамажнюю пошліну за лётаючыя талеркі заплацяць, што і лётаць ім адхочацца.

Калі якому-небудзь марсіяніну давядзецца трапіць у наш рэстаран і паглядзіць ён, як памалу пераносяцца талеркі з кухні да патрабавальнікаў, асаромімся мы на ўвесь сусвет.

Мяркуючы па лётаючых талерках, на Марсе добра разбудаваная прамысловасць. Нашы фабрыкі, больш за ўсё, выпускаюць цэлыя камплекты талерак, а аб выпуску паасобных — не думаюць. Таму не дзіва, што нашы грамадзяне заглядаюцца на лётаючыя талеркі.

Мусіць марсіяне вельмі неашчадныя, калі раскідаюцца талеркамі і ніякай эканомікі на Марсе няма.

Нашым чытачам вядомая інтэнсіўная падрыхтоўка да ракетнага спалучэння з Марсам. Адно толькі не выяснена: якія дакументы патрэбны для паездкі на Марс. Патрэбны будзе візаў сваякоў ці дастаткова будзе купіць звычайны білет, пакуль што, не вядома.

Калі гэтая справа трапіць у рукі нашага Орбісу, тады пішы прапала. За праезд у Кітай Орбіс бярэ 16 тысяч, а на Марс, мабыць, на кіламетры два з гакам далей чым у Кітай.

Значна танней было б даехаць на Марс аўтастопам. Але нашы грамадзяне, адкідаючы слова «аўта», пры слове «стоп» за стопкай цягнуцца.

А куды па-п'янаму заехаць можна, чытачы самі здагадваюцца.

*Дзядзька Лявон*




НАРОДНЫ ГУМАР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## КРУПЕЛКІ
## СПАД СУХАВОЛІ

**Сакольскі павет**

На гарэ камарэ,
На даліні мошка;
Прасіў камар у камарыхі
Пасваволіць трошка.

✲

Пайшоў дзед па грыбы,
Баба па апенькі;
Баба свае пасушыла,
Дзедавы сырэнькі.

✲

Добра таму, добра,
Цо жонка маленька,
І набіў, і насварыў,
Яна весяленька.

✲

Аман па пацеру,
Ганяў бацько мацеру
Ад гумна да хлеўчыка;
Мысляў, цо дзеўчынка,
Як пазнаў, што маці,
Перастаў ганяці.

✲

Пайшоў шавец у танец,
Ганавіцы упалі;
Хацеў устаць, падвязаць
Дзеўкі абсмяялі.

Міхал Фэдароўскі, «Люд беларускі», том VI.




### БУДЗЕ ХУТЧЭЙ

Еў муж з жонкай капусту з мясам. Муж і кажа да жонкі:
— Ты еш капусту, а я буду есці мяса, так будзе хутчэй.

**Іван Грыгарук**
Грыгароўцы

### ДЫРЭКТАР І САКРАТАРКА

Дырэктар: — Чаму гэта, калі б я не прыйшоў, вы нічога не робіце?
Сакратарка: — Гэта таму, пане дырэктар, што ваш абутак на каўчуковай падэшве.

**Мікола Беразавец**
Бельск

### У ГАСЦІНІЦЫ

У гасцініцу прыходзіць падарожнік і пытае:
— Колькі каштуе адзін начлег?
— Першы паверх — 200 зл, другі — 180 зл, трэці — 160 зл, чацвёрты — 140 зл, пяты — 100 зл, шосты 80 зл, — адказвае партэр.
— О, гэты будынак для мяне за нізкі, — сказаў падарожнік і выйшаў з гасцініцы.

**Мікалай Назарук**
Плюцічы

### У АПТЭЦЫ

Селянін зайшоў у аптэку і пытае:
— Што гэта за магазін?
— Аптэка! — адказвае аптэкар.
— А што тут прадаюць? — пытае селянін.
— Дурняў! — са злосцю адказаў аптэкар.
Селянін усміхнуўся і кажа:
— То добрая ў вас таргоўля ідзе, калі толькі адзін дурань астаўся.

### НІЧОГА НЕ БУДЗЕ

Адна суседка крычыць на ўсё горла да другой:
— То ж твая сабака з'ела мне два кілаграмы масла!
— Не бядуй, нічога ёй не будзе, — супакоіла яе тая.

**Сцяпан Горальчук**
Мокрэ

### ЗАПЫТАЎ

Аднойчы малыш разбіў акно. За гэта яго бацька пачаў біць. Малыш праз слёзы пытае:
— Тата, а хто цябе біў бы, каб ты разбіў акно?

**Алёша Шаховіч**
Сакі



Без слоў.

## ПА ДАРОЗЕ

Па дарозе, ля бяроз,
Неяк Янка цэглу вёз.
— Но, пайшоў хутчэй, сівак! —
Конь паўзе, нібы той рак.

Як мінуў сяло, масток —
З воза злазь цяпер, браток, —
Конь не цягне ані-ні,
Хоць бяры яго цягні.

Янка з воза раптам — скок,
Каб знайсці які кіёк,
Ды, схапіўшы ў руку,
Ім пагладзіць па баку.

Навакола паглядзеў, —
Як на злосць няма нідзе
Сціснуў зубы, кулакі:
— Каб цябе, сівак, ваўкі!

Кленучы з апошніх слоў,
Да бярозкі падыйшоў...
Бах сякераю з пянька —
І ні дрыгнула ж рука.

Кій бярозавы схапіў,
Сіваку як улупіў!
Конь угнуўся, аж дрыжыць...
А каго ж патрэбна біць?

**Захар Бірала.**



— Дык ты толькі цяпер з'явіўся ў школе?
— Вучыцца ніколі не позна.

На вадзе... і пад вадою.





 